# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — БЕЛАСТОК — ВІЛЬНЯ

ЗАСНАВАНА Ў 1920 Г.

№ 8 (22) *9—16 красавіка 1993 г.* *Кошт 5 рублёў*

**ВІЛЕНШЧЫНА.** Беларуская ўрадавая дэлегацыя падпісала ў Вільні міждзяржаўнае пагадненьне, ігнаруючы праблемы 60-тысячнага беларускага насельніцтва

**ГЭНЭРАЛ ЯРУЗЭЛЬСКІ** не жадаў, каб у Польшчы паўтарыўся Аўганістан, таму ён абвясьціў 13 сьнежня 1981 г. вайсковае становішча. Аднак сёньня гэнэрал баіцца быць прыцягнутым да крымінальнай адказнасьці.

**ДОБРА СПАЦЬ, КАБ ДОБРА АБУДЖАЦЦА.** Калі вы маеце праблемы са сном, прачытайце парады

Праграма **ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ** на наступны тыдзень: Менск — Варшава — Масква.




## Супраць хаўруса з Расеяй




У мінулыя выхадныя выдалася добрае надвор´е. Перад полуднем на Савецкай каля кінатэатра «Гродна» сабралася шмат людзей. Тут зьбіраюць подпісы супраць падпісаньня Беларусьсю абарончага саюзу з краінамі СНД сябры БНФ, БСДГ і суполкі імя Каліноўскага. Людзі выйшлі абараняць канстытуцыю сваёй краіны, сваю, хоць і фармальную пакуль, але ўсё ж незалежнасьць.

Шмат хто спыняецца, моўчкі ставіць подпіс і адыходзіць. Некаторыя пытаюцца, што гэта значыць, ім тлумачаць. Нехта спрачаецца, маўляў, без Расеі прападзем. А хтосьці папросту махае рукой: — «Дык гэта ж нацыяналісты». Як заўважыў адзін мой знаёмы: — «Такія людзі дагэтуль яшчэ жывуць у СССР».

Зацікавіліся акцыяй прыежджыя армяне, спрабуюць апавядаць пра падзеі ў сябе дома, аднак слухаюць іх няўважліва. Маладзён з моднымі дзяўчатамі чытае плакаты па складах, быццам першакласьнік, уголас і з дзіўным выразам твару пытаецца ў сваіх падарожніц: «А хто такі Кебіч?»...

За два дні пікэтчыкі сабралі больш за паўтары тысячы подпісаў, якія накіравалі потым у Вярхоўны савет і Савет Міністраў Беларусі.

**Фатаграфаваў А. УЛАДАСЕВІЧ.**

## Цяжкае разьвітаньне

Зайшоў неяк у філію ашчаднага банку па вуліцы Кастрычніцкай, 4. На першы погляд нічога асаблівага. Але над вакенцам адной з касірак трапіўся мне надпіс: «Советское государство гарантирует тайну и сбережения вкладов, выдает их по первому требованию вкладчика». «Яшчэ дзіўныя надпісы накшталт «Государственный банк СССР продает облигации 25-процентного займа» сустрэў у ашчадным банку па вуліцы Сацыялістычнай.

Дзіва дзіўнае, гэты Саюз ужо даўно сканаў, але працягвае жыць ва ўяўленьні гарадзенскіх фінансістаў. Што гэта, можа, настальгія па мінуўшчыне ці занадта доўгае разьвітаньне з саўдэпаўскай спадчынай?

(га).

## Медыкі б'юць трывогу

Нягегласьць кіраўнікоў дашкольных установ Горадні ў адносінах да забесьпячэньня дзіцячых садкоў неабходнымі для вясновага пэрыяда вітамінамі выклікала значнае паніжэньне гэмаглабіна ў крыві дзяцей. З гэтай нагоды ў дзіцячых паліклініках і шпіталях горада зьявіліся спэцыяльныя дарадчыя габінэты лекараў, дзе бацькі хворых дзяцей могуць атрымаць патрэбную кансультацыю.

## Знайшлі выйсьце

Дыфіцыт лесапілаваных будаўнічых матэрыялаў не ўвёў у роспач індывідуальных забудоўшчыкаў у Пінскім раёне. Яны і ў гэтым складаным становішчы знайшлі выйсьце: у некаторых вёсках навасёлы пачалі скарыстоўваць звычайны штакетнік для шалёўкі сваіх катэджаў, лецішчаў.

**Г. А.**

## Пастырскае слова ксяндза-біскупа Аляксандра Кашкевіча на нядзелю Ўваскрашэньня Панскага 1993 году

**Умілаваныя браты й Сёстры ў Хрысьце!**

**Хрыстос Уваскрэс! Сапраўды Уваскрэс! Алелюя! «Вясёлы нам сёньня дзень настаў» — гэта словы песьні вялікоднай, якія будзяць у нас радасьць з нагоды Уваскрашэньня Хрыстоса. Маем права цешыцца, бо Езус Хрыстос памёр за нашыя грахі й паўстаў з памёршых для нашага апраўданьня.**

**Усё, што Хрыстос учыніў, прыгожае, узьнёслае і бязконца важнае. Калі нарадзіўся ў Бэтлеэме, калі хадзіў па дарогах і сьцяжынах Палестыны і вучыў, і лячыў, калі здраджаны і асуджаны прыняў бяз слова пратэсту несправядлівы вырак сьмерці, калі цярпеў і канаў, і маліўся за тых, хто Яго ўкрыжавалі — усё гэта бязконца важнае, але найважнейшае для нас ёсьць тое, што Уваскрос. У Яго Уваскрашэньні ёсьць гарантыя нашага Уваскрашэньня.**

**Дарагія Браты й Сёстры! У гэты радасны дзень Уваскрашэньня жадаю, каб Пан абдараваў Вас Сваім Сьвятлом, каб маглі быць сьведкамі Яго Уваскрашэньня, самі сьведчылі аб ім усёю вашаю верай, духам малітвы і дабрынёю, пачцівасьцю, вернасьцю й любоўю ў жыцьці сямейным і ў жыцьці працоўным.**

**Хрыстос патрабуе сёньня сьведкаў той цудоўнай праўды, што чалавек можа жыць вечна, што любоў мацней ад нянавісьці, а жыцьцё — ад сьмерці.**

**Жадаю, каб усюды, куды патрапіце, абвяшчалі: Пан сапраўды Паўстаў з Памёршых.**

**Няхай Вас суправаджае і ўмацоўвае ў жыцьці Хрыстос, які Паўстаў з Памёршых.**

**На гэтае радаснае сьведчаньне аб Уваскрашэньні Хрыстосавым з усяго сэрца блаславаўляю—**

**Горадня, Вялікдзень, 1993 год.**

**Бп Аляксандр Кашкевіч,**
**Ардынарый Гарадзенскі.**

## Атрымайце «паўлаўскія» працэнты

Некалькі дзён таму ашчадныя касы Горадні распачалі выплату замарожаных аж да 1994 года тэрміновых укладаў насельніцтва. Мінула ўсяго два гады, калі апошні прэм´ер СССР аб´явіў аб значным росьце цэнаў, а заадно абмен купюраў вартасьцю 50 і 100 рублёў. Разумеючы, што такі крок ураду выкліча гнеў, тагачасныя ўлады прыдумалі 40-працэнтную кампэнсацыю ўкладаў. Шмат укладчыкаў паверылі чарговаму фарсу ўлады камуністых і заставілі свае грошы на рахунках ашчадбанку. Што з імі стала, зараз ужо вядома. Ці будзе за гэта хоць якая-небудзь кампэнсацыя? Карэспандэнту «Пагоні» ў цэнтральнай ашчаднай касе па вул. Ажэшкі адказалі так: «Ніякай даплаты ўрадам сувэрэннай Беларусі на «паўлаўскія» 40 % не прадугледжана.

**Г. АСТРОЎСКІ.**



● *Савецкія міфы*

# Хапай злодзея!

## Або ці быў бальшавізм «жыдоўскім»

Міф аб «жыдоўскай» сутнасьці бальшавізму ўзьнік яшчэ ў грамадзянскую вайну, шырока выкарыстоўваўся гебельсаўскай прапагандай падчас другой сусьветнай вайны, актыўна эксплуатуецца і сёньня рускімі фашыстамі пры спагадлівай патолі цяперашніх нэакамуністаў.

Мэта гэтага міфу — паказаць, што зьвярыная жорсткасьць і крыважэрнасьць расейскага бальшавізму, які ўспрымаўся і ўспрымаецца нярускімі народамі былой камуністычнай імпэрыі як навязаная ім чужая, руская па сваёй сутнасьці, зьява,— на самай справе і не руская зусім, а чужая і для рускіх, прынесеная «хрыстапрадаўцамі», «жыдамі», вынік сусьветнай змовы «жыда-масонаў» і г. д.

У апраўданьне гэтага тэзісу перапічваюцца наркамы і іншыя бальшавіцкія бонзы яўрэйскага паходжаньня, а таксама тыя, жонкі каторых быццам бы былі яўрэйкамі.

Гэты довад пры ўдумлівым разглядзе даказвае, аднак, толькі тое, што многа яўрэяў, прадстаўнікоў адной з самых бяспраўных нацый у часы царскай імпэрыі ўбачылі ў кастрычніцкім перавароце і ў бальшавіцкай ідэалогіі шанц эмансіпацыі (ураўненьня ў правах) як для сябе, так і для свайго народа, таму і аддаліся гэтай ідэі душой і целам.

Падобная зьява назіралася і ў прадстаўнікоў іншых народаў. Таму бальшавізм можна было б з такім жа абгрунтаваньнем назваць і латышскім (латышскія стралкі!), і польскім (Дзяржынскі, Мянжынскі, Кржыжаноўскі і г. д.), і венгерскім, і украінскім, і армянскім, і яшчэ з большай падставай — грузінскім (Джугашвілі і Берыя!).

Такім чынам, класіфікацыя бальшавіцкіх функцыянераў па нацыянальнай прыкмеце ў любым выпадку пакажа, што бальшавіцкая дэмагогія прыцягвала амбіцыйных прадстаўнікоў усіх прыгнечаных нацый. Аднак гэты факт ня можа зьмяніць адзіна магчымай высновы, а менавіта: пануючая большасьць як арганізатараў, так і выканаўцаў бальшавіцкага тэрору былі прадстаўнікамі асноўнай, пануючай нацыі. Гэты факт асабліва яскрава праявіўся на Беларусі. Яшчэ і цяпер, згодна сьведчаньню функцыянера ПКБ Коўкеля І. І., шчырыя нашчадкі былой КПСС — КПБ у 7—8 разоў часьцей сустракаюцца сярод рускага насельніцтва Горадні як сярод беларускага.

Цяжка, канешне, нармальнаму чалавеку ўсьвядоміць, што гэтая страшная машына зьнішчэньня была сканструявана і пушчана ў ход для забойстваў і катаваньняў сваіх жа братоў і сёстраў. Тым лацьвей верыцца ў лухту, што гэта, маўляў, падкопы «жыда-масонаў» пад рускі народ і яго дзяржаву, я не сваё, дамарослае, уласнай гадоўлі.

Тэзіс аб «жыдоўскім» характары бальшавізму разьлічаны, як і ўсе чыста прапагандысцкія міфы, на вельмі недасьведчаныя або стлумленыя алкаголем ці лянотаю розумы, бо нават школьны курс рускай літаратуры — ад публіцыстыкі Пісарава й Дабралюбава да «Бесаў» Дастаеўскага — сьведчыць аб тым, што нянавісьць да багатых уладароў і прага крывавай расправы з імі — спрадвечная характэрная рыса мэнталітэту расейскага абяздоленага люду, абумоўленая канкрэтнымі сацыяльна-гістарычнымі прычынамі. Бо нідзе ў сьвеце, калі назваць хоць адну з гэтых прычын, акрамя хіба некалькіх азіяцкіх краін, багацьце не фанабэрылася так пыхліва, пагардліва і ўсемагутна, а галата не была такой жудасна-безнадзейнай і бяспраўнай, як у дарэвалюцыйнай Расеі.

Таму такім буйным кветам і расцвіла бальшавіцкая дэмагогія, што адпавядала, з аднаго боку, жаданьнем і жывёльным інстынктам вялікай часткі народа, з другога — здолела выказаць імпэрскую расейскую ідэю ў новых умовах новымі, знешне прывабнымі катэгорыямі.

І яшчэ: калі бальшавіцкія эксэсы зваліць на «жыда-масонаў», то чым жа тады растлумачыць не меней крывавыя оргіі белай гвардыі, якая сьмяротным боем змагалася з «жыдоўскім бальшавізмам» быццам бы за інтарэсы рускага народа?

Апалагетаў ідэі «жыдоўскага» паходжаньня бальшавізму не бянтэжыць і тое, што кожны, хто мае хоць трохі глуздоў ў галаве, можа запытацца: «А ці можна лічыць вялікім народ, калі ён дазволіў жменьцы прадстаўнікоў іншага племені, іншай рэлігіі, іншай культуры (не былі ж некалькі соцень ці тысяч яўрэяў ардою Батыя!) разбурыць вялікую імпэрыю, вялікую культуру і на працягу больш як 70 гадоў зьдзеквацца с яго самога, ды і ці можна такі народ увогуле лічыць народам?»

Цікава, а каго ж цяпер трэба прызнаць вінаватым у відавочных посьпехах у Расеі аб ´яднанага фашыстоўска-камуністычнага фронту? Ці можна будзе потым абцяжарыць гэтай віной тых некалькіх пашпартных яўрэяў, якія да гэтага часу яшчэ чамусьці не эмігравалі за кардон?

Каб пазбавіць гэтыя рытарычныя пытаньні налёту зьдзеклівай кпіны, трэба выказаць упэўненасьць, што рускі братні народ выйдзе здаровым з чарговага прыступу таталітарнай хваробы, мусіць выйсьці, каб жыць. І няма для рускіх шчырэйшых дабразычліўцаў у гэтым, як беларусы, бо надта цесна пераплецены лёсы нашых народаў, бо на Беларусі нахабна перайшлі ў наступ на беларускую дзяржаўнасьць аднадумцы рускіх чырвона-карычневых.

Тактыка аўтараў міфу «жыдоўскага бальшавізму» распрацавана ў крымінальным асяроддзі: злодзей, убачыўшы, што крадзеж заўважаны, пачынае заходзіцца ў крыку: «Гвалт! Хапай злодзея!»

Такую ж тактыку ўжываюць і цяперашнія ўладныя структуры на Беларусі. Учарашнія камуністычныя бонзы і сёньня застаюцца пры ўладзе, не перастаюць крычаць без перапынку, што ў сёньняшніх бедах вінаваты дэмакраты...

Дык будзем жа пільнымі, узважым, ці ня злодзей той, хто гістарычна і найгучней крычыць?

**М. ПАТРЭБА.**

# Консул па-беларуску ні бэ, ні мэ

Яскрава памятаю год 1990-ы, а менавіта сакавіцкія падзеі на Летуве, калі парлямэнт гэтай рэспублікі абвясьціў сьвету аб сваёй незалежнасьці, надзеі вяртаньня ў супольніцтва эўрапэйскіх народаў. Інтуітыўна многія з нас адчувалі, што вось-вось выбухне, і таму сам факт толькі пацьвердзіў нашыя спадзяваньні. Але мяне ўразіла іншае. Па тэлебачаньні былі паказаны кадры наступнага зьместу: у Злучаных Штатах, дзе існуе шматтысячная летувіская дыяспара, ва ўсіх касьцёлах некалькі дзён эмігранты летувіскай нацыянальнасьці са сьлязамі на вачох маліліся за тое, каб Бог не дапусьціў, каб летувіскі народ выродзіўся ды загінуў. Ня толькі грамадзяне Летувы, але й суайчыньнікі, якія жывуць за мяжой, зышліся ў галоўным — адзіную нацыю аб ´ядноўвае агульная мэта — адбудова сувэрэннай летувіскай дзяржавы.

Мінула колькі гадоў. Летувіскія эмігранты вяртаюцца на Бацькаўшчыну, укладаюць грошы ў разьвіцьцё нацыянальнага бізнэсу, ладзяць ды мацуюць сувязі з землякамі, адным словам, дзяржава стварыла ўсе варункі, якія спрыяюць яе аўтарытэту ў сьвеце...

Мне, грамадзяніну Беларусі, у каторы раз балюча й горка за антыбеларускую, па сутнасьці палітыку нашага ўрада. Так, у сьнежні давялося сустрэцца з беларусамі ў Гданьску, дзе іх жыве нямала. Прадстаўнікі Беларускага культурнага цэнтру, якія год дамагаюцца ад мясцовых уладаў захаваць за імі памяшканьні, дзе месьцяцца актывісты беларускай грамады. Нагадаю, што ў Гданьску знаходзіцца гэнэральнае консульства Беларусі ў Польшчы, і выдаткоўваецца на яго ўтрыманьне з дзяржаўнага бюджэту 40 000 даляраў. Таму і зразумела пазіцыя мэра: ідзіце да консула, маўляў, ваш суайчыньнік, з ім і вырашайце праблемы, а ў нас сваіх клопатаў повен рот.

А як нармальнаму чалавеку растлумачыць, што гэтаму консулу да гэтых братоў-беларусаў такая ж справа, як нашаму ўраду да ўсіх нас? Сорамна за ўрад і можна зразумець гданьскіх беларусаў — адно спадзяваньне на польскія ўлады. Трагедыя нацыі, што тамтэйшыя беларусы адчуваюць сябе па-ранейшаму як бы эмігрантамі, лёсам закінутыя ў чужую краіну, а не часьцінкай беларускага народу, які мае сваю дзяржаўнасьць. А калі няма даверу сыноў да сваёй Бацькаўшчыны — гэта страшна. Таму й зайздрошчу суседзям-летувісам, таму й сорамна за палітыку нашай дзяржавы.

А рэчаіснасьць зараз такая, што грамадзяне сувэрэннай Беларусі па ўсіх завулках абмяркоўваюць, быць ці ня быць Ельцыну прэзідэнтам; аддаць ці не Курылы японцам; чаму зьнік Няўзораў з тэлебачаньня ды г. д. Жывуць, адным словам, справамі чужой дзяржавы, ня ведаюць, што робіцца ў сваёй хаце.

Калі, нарэшце, наш урад ды ўсе мы разам зразумеем, што ў нас свая ёсьць зямля, гісторыя, свае суайчыньнікі за мяжой, якія жывуць, магчыма, апошнімі надзеямі? Цікавае пытаньне, калі ж пачнуць паважаць нас як народ, разгледзяць нашае адметнае, беларускае, з усяго рускага ды савецкага? Пэўна, тады, калі пачнем паважаць сябе самі.

Маленькі прыклад. Той жа гэнэральны консул Беларусі ў Польшчы ані па-беларуску, ані па-польску. Прыкра ды сорамна. А вось за Летуву чамусьці па-ранейшаму толькі радасна ды зайздросна па-добраму... Вось і ўся палітыка. А за ёй — ня упусьціць бы, мабыць, апошні шанц.

**Алесь ПУГАЧОЎ.**

# Сьціслым радком

**АПЫТАНЬНЕ** сярод пастаянных слухачоў беларускіх перадач радыё «Свабода» правёў у Горадні менскі сацыёлаг Андрэй Вардамацкі. Рэспандэнты былі ўмоўна падзелены на дзьве групы: маладзёжную і людзей больш сталага ўзросту.

Мэтай сацыёлага было вызначыць, што цікавіць гарадзенцаў у перадачах адной з самых уплывовых заходніх радыёстанцый, што прапануюць слухачы журналістам «Свабоды» для стварэньня сучасных высокапрафэсійных праграмаў.

Пра вынікі апытаньня «Пагоня» зьбіраецца паведаміць у бліжэйшых нумарах.

**СВАЮ КРАМУ** маюць цяпер будучыя тэкстыльшчыцы з гарадзенскага прафтэхвучылішча нумар 120. А гандлююць тут пражай, сукенкамі, халатамі, іншай прадукцыяй, якую выpабляюць дзяўчаты ў вучэбных майстэрнях. Вучылішча мае неблагі прыбытак.

Шчыра дзякуюць тут шэфам,— вытворчаму прадзільна-нітачнаму аб ´яднаньню, швейна-гандлёвай фірме «Элод», тонкасуконнаму аб ´яднаньню,— за пастаянную падтрымку й клопат.

**ПРЫВАТНАЯ ІНІЦЫЯТЫВА** абуджаецца паціху і ў глыбінцы. У Сьвіслацкім раёне 55 чалавек афіцыйна зарэгістраваліся як прадпрымальнікі. У асноўным гэта жыхары райцэнтра, хаця ёсць і вяскоўцы з Нязбодзіч, Грыцкоў, Ханчыц.

Сфэра дзейнасьці прадпрымальнікаў—розьнічны гандаль, рамонт гадзіньнікаў, вязаньне верхняга адзеньня, музычныя паслугі.

**САЦЫЯЛЬНАЕ АДДЗЯЛЕНЬНЕ** на дзесяць ложкаў адкрылася пры Скідзельскай бальніцы. Прызначана яно для адзінокіх людзей, якім патрэбна амбулаторнае лячэньне і пра якіх няма каму паклапаціцца.

Грошы на гэтую гуманную справу далі калгас «Скідзельскі» і мясцовы камбінат хлебапрадуктаў, кожны па сто тысяч рублёў. Дапамаглі і калектывы бройлернай птушкафабрыкі і цукровага камбінату.

**М. МЯЦЯВІЦКІ.**

**ШМАТ ХТО** з жыхароў Смаргоні шукае сёньня працу. Ужо каля 500 чалавек атрымалі сёньня статус беспрацоўных. А ў той жа час, як ні дзіўна, некаторыя з мясцовых прадпрыемстваў — агрэгатны завод, завод буйнапанэльнага домабудаваньня, будаўніча-мантажны трэст № 41 — даволі актыўна прымалі на працу й давалі месцы ў інтэрнатах тым, хто прыехаў у нашу краіну з розных дзяржаў былога Саюза і не зьяўляецца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь.

У мінулыя гады, калі сітуацыя ў горадзе была больш стабільная, Смаргонь ветліва сустракала многіх прыезжых. Але цяпер не тыя часы. Мясцовы бюджэт не вытрымлівае велізарных выдаткаў на сацыяльную сфэру, да таго ж трэба дапамагчы перасяленцам з чарнобыльскай зоны...

І вось смаргонскі гарвыканкам вырашыў спыніць «самадзейнасьць» кіраўнікоў прадпрыемстваў і арганізацый, і сваім рашэньнем забараніў ім без дазволу гарадзкіх уладаў прымаць на працу і даваць месца ў інтэрнатах тым, хто прыехаў у Смаргонь з-за межаў Беларусі. Мера вымушаная, але неабходная. Інакш як спыніць паток мігрантаў з «гарачых кропак» былога Саюза? Тут неабходна прымаць рашэньні на ўзроўні ўрада.

**В. БЯЛЕВІЧ.**

## Справы партыйныя

Як паведаміў кіраўнік ПКБ т. Чыкін, ужо надрукаваныя 30 тысячаў партыйных квіткоў адноўленае КПБ. Але, па яго ж словах, гэта толькі «першыя ластаўкі», бо на самой справе прыхільнікаў камуністычных ідэалаў на Беларусі значна болей.

## Як жывеш, пярвічка?

У камуністычны парткам саюза пісьменьнікаў Беларусі пачалі здаваць партыйныя ўзносы. Першымі ў праўленьне саюза прынесьлі свае грошы два Іваны — Шамякін і Чыгрынаў.

# ГРАМАДЗТВА

## «Надзея-экспрэс» для Беларусі



Так называецца акцыя гуманітарнай дапамогі для нашай краіны, якую праводзіць вясной гэтага года амэрыканская дабрачынная арганізацыя. «Сіціхоп», што ў перакладзе азначае «Горад будучыні». Ужо 9 красавіка першы самалёт з-за акіяна павінен даставіць на Беларусь дзіцячае харчаваньне й мэдыкамэнты. Другі паветраны рэйс прызначаны на 25 красавіка.

Пра гэта паведаміў прэзідэнт «Сіціхопа» містэр Пол Мор, які на мінулым тыдні быў у Горадні. Ён перадаў у бальніцы горада гуманітарны груз — мэдыцынскія прэпараты й дзіцячае харчаваньне. У ходзе апэрацыі «Надзея — экспрэс» вобласьць павінна атрымаць яшчэ значную колькасьць такой дапамогі. Па словах містэра Мора, у Горадню прыедзе каля 50 валанцёраў-добраахвотнікаў са Злучаных Штатаў Амэрыкі, якія дапамогуць у разьмеркаваньні гуманітарнага груза.

Вялікую павагу выклікае дабрачынная дзейнасьць прэзідэнта «Сіціхоп». У кастрычніку 1990 года ён упершыню наведаў Менск, убачыў у нашых шпіталях дзетак, якія сталі ахвярамі Чарнобыля... З таго часу Пол Мор і яго сям 'я, яго аднадумцы па ўсёй Амэрыцы стараюцца дапамагчы Беларусі, даць надзею хворым дзецям на выздараўленьне, на будучыню. «Сіціхоп» зьбірае ахвяраваньні, купляе на гэтыя грошы мэдыкамэнты й адпраўляе іх у нашыя бальніцы. Сёньня ў Менску ўжо працуе пастаяннае прадстаўніцтва «Сіціхоп» і дапамога нам, ужо не часовая кампанія, а доўгатэрміновая праграма.

**М. ВАСІЛЕВІЧ.**



● Ліст з вёскі

## Напаўжартам аб нашых недарэчнасьцях

*Жыву я сабе на Гарадзеншчыне, у знакамітых Верцялішках. Ды і не аб чым ня думаю. Аркамя таго, як жыць у гэты мудрагелісты час. А так, нічога мяне не турбуе. Навошта мне той Карабах, ды яшчэ Нагорны. Да лямпачкі мне Армэнія і Азэрбайджан, чачэнцы ці там татары ды яшчэ там розныя...*

*Бач ты! Прыдумалі нацыянальнае пытаньне. Сядзелі б моўчкі, працавалі б пацііху ды ў сапілкі дзьмухалі. Знайшліся мне нацыяналісты.*

*Вось у нас у гэтай справе адно заміляваньне. Рабуе Беларусь хто толькі захоча. І ўсё шыта-крыта. І ніхто не пярэчыць ні ў чым.*

*Адно толькі ўголас, каму трэба й ня трэба, балбочуць: давайце дзяржаўнае дзьвюхмоўе.*

*А кажуць, што яшчэ да Вялікай Айчыннай ва Усходняй Беларусі былі толькі беларускія школкі. Былі таксама яўрэйскія, нават нямецкія. І пэрыяд быў сталінскі, і ніякай гаворкі, як зараз, аб дэмакратыі не было, але школы былі.*

*І вось праз паўстагоддзя ўсе беларускія і іншыя школкі зьніклі, як карова языком зьлізала. Ніякіх дэкрэтаў не выдавалі, ніякіх заяў ніхто не пісаў аб іх скасаваньні.*

*Толькі й радасьці было мне, беларусу, што калі-нікалі нібы сухім пэндзлем па вуснах падражнівалі: бульба, хата, маці, тата. Праўда, апошнім часам лексіка беларуская пашырылася. Нават старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі праводзіць паседжаньні па-беларуску.*

*І ведаеце што? Выношу прапанову аб скасаваньні розных званьняў: заслужаных, народных. Навошта? У большасьці такіх заслужаных ці народных беларускага столькі, колькі ў маёй прабабкі маршальскага імпэту. Няўжо ім такі гонар за тое, што ў Беларусі жывуць і працуюць? Ды мне хай той дзівак падкіне якое званьне. Я ж ня толькі жыву на Беларусі, працую, да чаго ж беларус ды на родный мове час ад часу размаўляю.*

*Мог бы часьцей, ды абставіны перашкаджаюць.*

*Пытаньні. Пытаньні. Чаму, напрыклад, у Эстоніі, Латвіі, Летуве, дзе карэннага насельніцтва ня больш, чым у нас беларусаў, ніякіх размоў аб дзяржаўных мовах не было, а з павагай, любоўю адносяцца да сваіх моў. А мы мелі калісьці сваю дзяржаўную мову, раптам распачалі балбатню вакол яе.*

*Як паўсюдна закрывалі беларускія школы, дык ні ў кога не пыталіся. А зараз? Будзьце ласкавы, татачка, мамачка, напішыце заяву, каб вашы дзеткі ў беларускі клас пайшлі вучыцца. Ну, як у гады галечы (а мы сапраўды ў галечы жывём), калі ж ходзяць з торбамі: «Падайце, людзі добрыя».*

*А што даваць? Рэспубліка Беларусь — дзяржава. Зьяўляецца нават членам ААН. Значыцца, Беларусь і мова тут беларуская, дзяржаўная. І нікому не дазволена гвалт чыніць над ёю. Ды й сьмешкамі займацца. Вайвай, што рабіць? Якім шляхам пайсьці? Справа сур 'ёзная. Дроў каб не наламаць. А дроў ужо і так наколата, што імі цэлы Менск ацяпліць можна.*

*Няўжо гэта самая дэмакратыя ўсталёўваецца, каб ужо каторы год і пасьля прыняцьця Закона аб мовах весьці адно размовы? Жывеш у Беларусі — вучы, ведай яе мову. Жывеш у Расеі — хоць сакачы, але па-расейску.*

*На жаль, на Беларусі зашмат зэльвенскіх настаўнікаў, якія нават чытаць па-беларуску не жадаюць. Ці ж не таму у кожным малым і вялікім паселішчы вуліцы носяць найменьні рускіх і розныя шыльды, назвы гарадоў і вёсак — па-руску? Ці ж не таму шматлікія рэспубліканскія, вабласныя, раённыя і гарадзкія газэты выходзяць на расейскай мове. Няўжо, скажам, на Ашмяншчыне, радзіме Ф. Багушэвіча, перасталі яго земляні любіць і паважаць родную мову і з гэтай нагоды раёнка — на расейскай. Мы ж ганарымся сваімі класікамі. А можа, толькі на словах?*

**У. ГАРАНЧУК.**

# Лісткі календара

Дзень абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі — 25 сакавіка 1918 года, выклікае сёньня ў розных людзей дыямэтральна процілеглую рэакцыю. Але што б ні казалі праціўнікі БНР, у гэты дзень 75 гадоў таму назад было упершыню заяўлена ўсяму сьвету, што ёсьць такі народ — беларусы, і такая краіна — Беларусь, якая хоча заняць, як казаў Янка Купала, «свой пачэсны пасад між народамі». І цалкам магчыма, што калі б не было БНР, то хутчэй за ўсё не было б і БССР.

Упершыню пра гэты дзень я прачытаў яшчэ школьнікам на лістку беларускага адрыўнога календару, які ў часы міжваеннай Польшчы выдаваўся ў Вільні. Дарэчы, у тых умовах, калі не існавала беларускіх школаў і вельмі цяжка было з беларускімі кніжкамі, каляндар гэты быў «настольнай кнігай» беларускага селяніна, яго «унівэрсітэтам», дзе ён мог прачытаць і беларускія вершы, і зьвесткі пра нашу гісторыю, пра родную прыроду, жарты, гаспадарчыя парады і шмат аб чым іншым.

Менавіта з гэтага календара я даведаўся пра Полацкае княства, пра яго князя Усяслава Чарадзея, пра тое, чым для нас, беларусаў, была эпоха Вялікага княства Літоўскага, пра К. Каліноўскага і як я ўжо сказаў вышэй, пра дзень 25 сакавіка.

Акрамя календара хадзілі з рук у рукі вельмі панішчаныя, часта без вокладак, кнігі беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў (Ядзвігіна Ш., Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Я. Лёсіка і іншых), а таксама розныя брашуркі й лістоўкі (іх мы называлі афішкамі). З гэтай літаратуры й календара я многа перапісаў вершаў, гістарычных зьвестак у сшыткі. Частка іх загінула, а з тых, што засталіся, прапаную чытачам газэты верш Юльяна Сяргіевіча, прысьвечаны дню 25 сакавіка.

**Г. ТАРАСЕВІЧ.**

### ДА ДНЯ 25 САКАВІКА

Сягоньня распалім сьвятло  
успамінаў,  
Пайшоўшы ў неварач розных  
часінаў.  
Як многа падзеяў калісь  
галасьлівых  
Разьвеяла рэха абшараў драмлівых  
І толькі ясьнеючай славы сьляды  
Не змогуць зацерці вякамі гады.  
Калісьці ў хвалях зьвінячых  
прадвесьня,  
Імкненьне, як быццам, прызыўная  
песьня,  
Сабрала пад кліч змагароў  
за свабоду,  
Абвесьціць грамадна днём гэтым  
народу  
Ад роднай краіны свой першы  
прывет,  
Што грымнуў магутна — «Няхай  
будзе сьвет!»  
З усёй Беларусі вялікае веча,  
За праўду ў жыцьці барацьбы  
чалавечай,  
Нарэшце пісала агністае імя,  
Якое тварыла цярпеўшай краіне  
У досьвітках лепшага заўтра—  
зару,  
Як лозунг магутны — «Жыве  
Беларусь»!  
Народ перажыўшы ўсе гвалты  
прыгонаў,  
І царска-жандарскіх рэжымаў-  
законаў,  
Аддаўшы пад бой і пажары Краіну,  
Народ у пагібелі той не загінуў.  
Ён меў яшчэ сілу паўстаць  
з небыцьця  
І абвесьціць на сьвет сваё права  
жыцьця.  
Панурыя хмары варожых нам  
сілаў.  
Аднак вартавалі курганаў-магілаў.  
Адкуль спадзяваліся з мёртвых  
устане,  
Каб гвалтаў сваіх даказаць  
выкананьне...  
Іржаваю стальлю зьвінелі ізноў,  
Пракляцьце і ганьба чужых  
кандалоў...  
За тым скрыжаваньнем вялікай  
дарогі  
Ізноў напаткаліся ссылкі, вастрогі,  
Што мелі згасіць нашы іскры  
надзеі,  
Ды толькі не можна згасіць той  
ідэі,  
Якая калісь гэтым памятным днём  
Успыхнула ў нас незгасімым агнём.  
Якая парой мітусьні ўсенароднай,  
Паслужыць нам зоркай сьвятой,  
пуцяводнай,  
Прызыўна зьбярэ Крывічоў  
пакаленьне,  
Пад сьцяг барацьбы за сваё  
адраджэньне,  
Якое прадбачыць сягоньня народ.  
Як сьветлы й радасны сонца ўсход.  
Сягоньня з нас кожны павінен  
прызнацца,  
Ці мае ўстаць, ці бяздушна  
схавацца.  
Як дух нашай волі ўзьнясецца  
на крыльле,  
Каб чуцца нам пэўным з рахункам  
на сіле.  
І сіле варожай даць пэўны адпор,  
За свой родны край, за свабодны  
прастор.  
Сыйдзіце з дарогі, варожыя цені.  
Бо далей не змоўчаць вам нашы  
цярпеньні!  
Даўнейшых прыгоньнікаў  
вольныя дзеці  
Яшчэ вас паклічуць за крыўду  
і зьдзекі,  
Каб далі прад судом на гэта  
адказ:  
— Чаго вы заўсёды хацелі ад нас?  
Сягоньня ў часе вялікага сьвята,  
Няхай будзе імя высока ўзьнята  
Таго, хто калісьці цярпеў  
паніжэньне,  
І з верай у справу свайго  
вызваленьня.  
Мы скрышым мінулых вякоў  
ланцугі  
За волю тваю, наш народ дарагі.





# ПАЛІТЫКА

● *Перадрук*

# Гэнэралу Ярузэльскаму падабаецца прэзідэнт Валэнса

Варшава. 69-гадовы гэнэрал Войцах Ярузэльскі нерухома сядзіць у фатэлі, ягоны твар скажоны болем, быццам ён пакутуе на старую рану. Аднак ён ані на хвілю не вагаецца, адказваючы на пытаньне «Калі б яму давялося зноў пачынаць, ці абвясьціў бы ён у Польшчы вайсковы стан?» Ён змрочна адказвае, што «хутчэй пусьціў бы сабе кулю ў лоб».

Гэнэрал, якому наканавана трапіць у гісторыю чалавекам, які спачатку перамог «Салідарнасьць», а потым быў змушаны кіраваць працэсам ліквідаваньня камуністычнай улады у сваёй краіне, прызнаўся, што сёньня ён шкадуе пра тое, што выклікаў войска з танкамі ў тую сьнежаньскую ноч 1981 года.

«Сёньня я, канешне, стаў мудрэйшым,— сказаў ён у гутарцы — Мінула дзесяць год. Я магу казаць толькі аб тым, што ведаў у той час пра становішча ў краіне й за межамі яе, аб няўлоўных псіхалягічных чыньніках. Калі ўсё гэта ўзнавіць, дык мне думаецца, што я ня мог дзеіць інакш. Але я глыбока шкадую пра тое. Гэта быў кашмар».

Гэнэрал таксама сказаў, што цяпер ён бачыць камуністычную дактрыну «часткова утапічнай й часткова памылковай» і што адыйшоўся ад яе, захаваўшы аднак прыхільнасьць да «каштоўнасьцяў левых сілаў». На пытаньне, якой палітычнай філасофіі ён прытрымліваецца, ён адказаў: «У праграме Клінтана я бачу тыя элемэнты, якія мне падабаюцца».

«Каштоўнасьці левых палітыкаў,— сказаў гэнэрал,— можна выказаць катэгорыямі сацыяльнай справядлівасьці й роўных пачатковых магчымасьцяў для усіх людзей».

На пытаньне, ці лічыць ён небясьпечнай разбежнасьць паміж заможнымі ды беднымі ў цяперашняй Польшчы, ён адказаў: «Так. Назапашваньне багацьця злом само па сабе не зьяўляецца, але яно абражае людзей, якія ўсё жыцьцё сумленна працавалі, а цяпер мусяць корпацца на сьмецішчах, шукаючы сродкі да існаваньня».

Гэнэрал не хавае, што яго абурае прагнасьць і бессаромнасьць, з якой новыя польскія мільянеры робяць сабе капітал. «Багацьце й працьвітаньне добрыя, калі ствараюцца сумленным чынам,— працягнуў ён.— Але ў час хуткага пераходу, які мы перажываем, калі існуе безліч спосабаў рабіць сабе капітал, не укладаючы рэальнай працы,— у гэтым няма анічога агульнага са здаровай капіталістычнай сістэмай. Гэта падобна на раньнюю ступень капіталізму, небясьпечную й некіраваную.

Сорак пяць гадоў камунізму, безадносна да зьдзейсьненых намі памылак, застаюцца з намі. Большасьць людзей цяжка працавала. Яны прызвычаіліся да сацыяльнай абароненасьці. А цяпер нас апанаваў вялікі польскі рамантызм: усё тое, што было да 1939 г.— добра, а што пасьля — усё дрэнна. Але міжваенны час быў не такім ужо прывабным».

Адстаўка не дала гэнэралу Ярузэльскаму спакою. У апошнія тыдні ён стаў перад парляменцкай камісіяй, якая высьвятляе ці супярэчыла польскай канстытуцыі абвяшчэньне вайсковага стану й куды зьніклі пратаколы тагачасных паседжаньняў палітбюро ЦК.

Сумнеўна каб пошукі камісіі прывялі да прыцягненьня гэнэрала да крымінальнай адказнасьці. Але апавядаюць, што ён цяжка перажывае гэтыя публічныя разборы. У дзвюхгадзіннай гутарцы ён часта ўзгадваў аб гэтым парляменцкім расьследаваньні. Яго непакоіць, што на Захадзе яму ствараюць рэпутацыю чалавека, які «заняволіў краіну». Ён выказаў аднак жаль, што ў выніку ўвядзеньня вайсковага стану людзі зазналі пакуты, а некаторыя загінулі (паводле незалежных крыніц — ад 10 да 100 чалавек). «Гэта й дастаўляе мне найбольшы боль,— гаворыць ён.— І ўсё ж ахвяраў было менш, чым магло б быць.— Ён змаўкае, сьціскае пальцы й дадае.— Вайсковы стан быў меншым злом, але праз гэта яно не перастае быць злом».

У 1985 годзе, калі ён быў яшчэ ля ўлады, гэнэрал Ярузэльскі абараняў вайсковы стан як захад, які ўратаваў краіну ад «братазабойчага канфлікту», й не выказваў шкадаваньня. Цяпер жа, калі былыя камуністычныя кіраўнікі паўсюдна прыцягваюцца да адказнасьці за свае дзеі, ён імкнецца выкласьці сваю вэрсію тых падзей. Ён выглядае на заклапочанага, нават пакутвае з-за вэрдыкту, які яму мае вынесьці гісторыя.

Гэнэрал Ярузэльскі жыве ў сьціплай віле на ціхай вуліцы варшаўскага раёну Макотув. Ён працуе над мэмуарамі ў габінэце, аздобленым партрэтамі жонкі і дачкі, краявідамі польскіх лясоў.

У карычневай куртцы, апранутай на зьмяты карычневы швэдэр, ён яшчэ захоўвае вайсковую постаць, магчыма дзякуючы гарсэту, які носіць з-за атрыманага на вайне раненьня. Ён высока ацэньвае Леха Валэнсу як «прэзідэнта маёй краіны» і з павагай гаворыць пра інтэлігентаў і рабочых, якіх ён калісьці схаваў за краты.

Загадкавая асоба, якая хаваецца за цёмнымі акулярамі з-за празмернай чульлівасьці да сьвятла, ён дагэтуль выклікае захапленьне ды спрэчкі сярод палякаў. Некаторыя па-ранейшаму бачаць у ім лёкая былых савецкіх кіраўнікоў, чалавека, які згадзіўся выконваць брудную працу, душачы масавы рух за свабоду й дэмакратыю, распачаты «Салідарнасьцю» сп. Валэнсы. Але іншыя лічаць яго патрыётам, чые дзеяньні, якімі б жорсткімі не здаваліся ў свой час, магчыма ўратавалі Польшчу ад грамадзянскай вайны, каторая непазьбежна пацягнула б за сабой умяшаньне СССР.

Калі-небудзь гісторыкі ўсё высьвятляць дакладна, гаворыць гэнэрал Ярузэльскі, але сам ён упэўнены, што пагроза савецкага ўтарженьня была рэальнай. Ён звярочвае ўвагу на пагрозныя рашэньні, прынятыя КПСС, на рашучую настроенасьць «цьвёрдагаловых» ва ўласнай партыі, напружаныя спатканьні з савецкімі кіраўнікамі, на вайсковыя манёўры Варшаўскага Дагавору на савецкай і ўсходненямецкай межах, іншыя злавесныя прыкметы. Паводле ягоных словаў, ён нават атрымаў паведамленьні пра тое, што вайсковыя шпіталі ў СССР і ГДР рыхтаваліся да прыёму параненых і што ў СССР распачаўся прызыў рэзэрвістаў, якія валодаюць польскай мовай.

У прыватнасьці, ён прыгадвае халодную сустрэчу ў верасьні 1981 года з маршалам Усьцінавым, савецкім міністрам абароны, у часе аб'яднаных вайсковых вучэньняў, што атрымалі назву «Захад». Абодва яны сядзелі ў вэртальёце, а навокал, на доле, колам стаялі афіцэры савецкай арміі.

«Гэта працягвалася некалькі гадзін,— успамінае гэнэрал Ярузэльскі,— Усьцінаў сказаў, што Савецкі Саюз не зьбіраецца больш цярпець цяперашняе становішча, бо яно пагражае бясьпецы ўсяго Варшаўскага Дагавору. Ён разгарнуў перада мной цэлую панараму глабальных пагрозаў, скіраваных на Савецкі Саюз. Ён прыгадаў Аўганістан, Кітай. А калі загаварыў пра Польшчу, што мяне вельмі занепакоіла, назваў нас «трэцім фронтам». У іхнім разуменьні мы ўжо былі «фронтам». Было яшчэ спатканьне з маршалам Куліковым, камандуючым войскамі Варшаўскага Дагавора. «Я дагэтуль памятаю яго словы. Мне не хацелася б маляваць яго д'яблам бо ён па-свойму падабаўся, але я назаўсёды запомніў нашу апошнюю размову. Ён сказаў мне: «Калі такое будзе працягвацца, дык мая рука ня дрогне».

Гэнэрал Ярузэльскі тлумачыць, што прамога папярэджаньня не было, але дадае: «З Брэжневым заўжды адбываўся класічны паўтор «Мы ня кінем Польшчу на волю лёсу». Гэта эўфэмізм, але мы ведалі што ён азначае».

Нават Дубчаку яны не гаварылі: «Зрабі гэтак, а інакш мы ўмяшаемся,— прыгадаў Ярузэльскі чэхаславацкага лідэра, чые рэформы падштурхнулі краіны Варшаўскага Дагавору да вайсковага ўмяшаньня ў 1968 годзе.— Гэта робіцца ня так. Гэта ажыцьцяўляецца праз знакі і сігналы, папярэджаньні, выказваньня ў палітычнай, а не ваеннай форме. Аднак усе ведаюць пра што йдзе мова».

Нядоўга перад утаржэньнем, якое пакасавала дубчакавыя рэформы «Пражскай вясны», гэнэрал Ярузэльскі, тады малады міністр абароны Польшчы, апынуўся на цырымоніі пахаваньня ў Маскве паміж Брэжневым і Грамыкам. Абодва паралі яму падоўжыць даўно планаваны адпачынак.

«І вось я, міністр нацыянальнай абароны другой па велічыні арміі, атрымліваю ад Грамыкі з Брэжневым параду добра адпачыць у Крыме,— успамінае ён.— Праз некалькі дзён адбываецца ўтаржэньне. Бачыце, як прымаліся падобныя рашэньні. Тое ж самае было з Аўганістанам і Вэнгрыяй».

Ярузэльскі ўпершыню апавядае пра сваё выхаваньне, якое, з яго словаў, было «глыбока антырускім і антысавецкім». Ён гаворыць, што абодва ягоныя дзяды ваявалі з расейцамі, што бацька страціў здароўе ў савецкім лагеры і што сам ён чатыры гады працаваў у Сібіры.

Не зважаючы на гэта, працягвае ён, яму давялося зьведаць Расею «зьнізу» й нават палюбіць народ гэтай краіны, ейныя літаратуру й культуру, таму ён здолеў «пазбыцца фобіі ранейшай» і ставіўся да Савецкага Саюза як да «вялікага хаўрусьніка».

«Сёньня, калі СССР больш не існуе, калі тамака пануе гармідар й «вялікі мядзьведзь» страціў моц, у Польшчы знайшлося шмат «сьмелых»,— гаворыць ён.— Я да іх не належу. Я не чалавек хвілі. Я веру, што СССР — наш хаўрусьнік. Я ведаю, што нам гэта дорага каштавала, але такой была рэчаіснасьць у сьвеце. Гэта быў падзелены сьвет. Але дзяліў яго не я».

**Паводле «Нью-Ерк Таймз».**

## На чорны дзень

Не зважаючы на інфляцыю, гарадзенскія пэнсіянеры адкладаюць рубель-другі сваіх невялікіх пэнсій на чорны дзень. Так, пажылая жыхарка Горадні М., атрымваючы ад дзяржавы пэнсію памерам ў чатыры з паловай тысячы, штомесяц адносіць на ашчадную кніжку тры з іх. А восьмідзесяцігадовы спадар Ж. з такой жа пэнсіі адкладвае дзьве з паловай тысячы...

НА ТОРЖЫШЧА ДА РУМЫНІІ

«Папрацаваўшы» на торжышчах Польшчы, гарадзенскія «камэрсанты» ў пагоні за прыбыткам цяпер асвойваюць рэчавыя рынкі Румыніі. Тавары, на якія ў Польшчы амаль няма попыту, а гэта карыстанае дзіцячае і іншае адзеньне, ў Румыніі можна прадаць хутка й даражэй.

(гц).

## Праезд падаражаў удвая

З першага красавіка на 100% падаражаў кошт праезду на чыгуначным транспарце. Цяпер, каб трапіць у Маскву, грамадзяніну неабходна вылажыць з уласнай кішэні 1250 рублёў. Цана білету да Санкт-Пецярбургу дасягнула 1150 рублёў, а ў сталіцу суседняй Латвіі білет каштуе 1200 руб.

Нягледзячы на рэзкі скачок цэнаў, чэргі на Гарадзенскім чыгуначным вакзале не паменьшыліся, бо білеты, якімі гандлююць спэкулянты прама ля касаў, каштуюць значна болей. Напрыклад, да Масквы тут білет каштуе 7 тысяч, да С. -Пецярбургу —6,5 тысячы, а да блізкага замежжа перакупшчыкі прапануюць білеты за валюту.

Дарэчы, не засталіся ў накладзе й аўтобусьнікі: яны ўзьнялі кошт білетаў на міжгародных маршрутах роўна на 100 р, і павялічылі ўдвая тарыфы на рэчавыя білеты.

Г. АСТРОЎСКІ.

## Паганяй!

Наўрад ці гаспадарку нават сучаснага беларускага селяніна-уласьніка магчыма ўявіць без каня. Нягледзячы на тое, што за доўгія гады існаваньня калгаснай сістэмы коней на Беларусі амаль пазводзілі, без іх, як сьведчыць жыцьцё, не абыйсьціся, асабліва зараз, калі стала зразумела, што зямлі патрэбен сапраўдны гаспадар.

Першыя захады па аднаўленьню коннага статка на Гарадзеншчыне спрабуе рабіць міжгаспадарчая асацыяцыя каняводаў «Арыён». Яна ставіць перад сабой мэту разьвядзеньня коней гужавых, спартыўных і мясных пародаў. Фундатарамі арганізацыі сталі фірма «Гродсоўп» і некалькі калгасаў вобласьці.

На дагаворных умовах арганізацыя дапамагае набываць коней як для калгасаў, так і ўласьнікам. Коней, як правіла кабыліц, даюць на некалькі гадоў у арэнду бязплатна, пры ўмове, што жарабя абавязкова кожны год адкупіць назад асацыяцыя. Дарэчы, кошт каня 3—5 гадоў складае зараз прыкладна ад 300 да 500 тысяч рублёў, а пагалоўе на Гарадзеншчыне цяпер ніжэйшае, чым у пасьляваенныя гады. Акрамя таго, асацыяцыя «Арыён» забясьпечвае сваіх кліентаў і мэдыцынскім абслугоўваньнем. Найбольш плённа справы ладзяцца ў Сьвіслацкім, Бераставіцкім, Іўеўскім і Слонімскім раёнах. Цікава, што фірма сябе яшчэ нідзе не рэкламавала, а жадаючых узяць коней у арэнду не бракуе.

Дапамагае «Арыён» і памежнікам, якім апошнім часам несьці службу без коней стала значна цяжэй. Асацыяцыяй зацікавіліся замежныя партнёры з Нямеччыны, Італіі, Польшчы, якія ўжо з гэтай мэтай наведалі Гародню.

У будучыні плануецца наладзіць выраб спэцыяльнага начыньня для коней. Ужо зараз асацыяцыя «Арыён» зьвярнулася з прапановай да Гарадзенскага аблвыканкама адчыніць у раёне старога аэрапорта першую конна-спартыўную школу, што, вядома, значна магло б пасунуць справу наперад.

А пакуль, у мінулым годзе на сьвет зьявілася яшчэ 60 жарабят, якія належаць міжгаспадарчай асацыяцыі «Арыён».

М. МІКАЛАЙЧЫК.

